Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

Івацэвічы -Баранавічы -Бяроза

19—25 снежня 1998 года
№ 77 (157)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 3000 руб.

НАВІНЫ: НАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

## Чэргамі кіруе міліцыя

Сапраўдныя "аншлагі" назіраюцца перад адкрыццём івацэвіцкіх магазінаў "Верас" ад Бярозаўскага мясакамбіната і "Дружба" ад Баранавіцкай птушкафабрыкі. Каб купіць дзесятак яек у магазіне "Дружба", напрыклад, чэргі займаюць з 7 гадзін раніцы. А ў мінулую пятніцу ў гэтым магазіне ўладкоўваць чаргу былі вымушаны работнікі міліцыі. Аказваецца, заспакоіць раз'юшаны ў чэргах натоўп не лягчэй, чым злавіць небяспечнага злачынцу...

### У райвыканкаме — новы старшыня

Нарэшце ў Івацэвіцкім райвыканкаме — новы старшыня. Ім назначаны Уладзімір Васільевіч Ляцяга, які раней працаваў начальнікам ПМК-18. Былы старшыня П. Г. Жышка нядаўна ўрачыста адпраўлены на пенсію па інваліднасці, а І. М. Чырко, які выконваў абавязкі старшыні, раптоўна захварэў і знаходзіцца ў бальніцы. Што ж, нялёгкі хлеб старшынёўскі. Хай не палохаюць Уладзіміра Васільевіча цяжкасці. Кажуць, што без іх работа не заўсёды спорыцца. Поспехаў Вам, новы старшыня!

### Ахвяры агню

15 снежня ў вёсцы Любішчыцы здарыўся пажар. Згарэў жылы дом Ляўковых. У агні загінулі гаспадар і двое малалетніх дзяцей (3 і 5 гадоў). Прычыны пажару высвятляюцца.

## 25 снежня — НАРАДЖЭННЕ ХРЫСТОВА

(па календары Рыма-Каталіцкай і Грэка-Каталіцкай канфесіі)

## Радасных Вам калядных свят!

Пасланец з неба апавясціў: "Абвяшчаю Вам вялікую радасць. Сёння, 25 снежня, нарадзіўся для вас Збавіцель".

Няхай гэтае пасланне пра Божае Нараджэнне дойдзе да бальнічных палат, да ложка кожнага хворага чалавека, да людзей, змучаных цярпеннем.

Няхай пачуюць гэтыя словы сіроты, выхаванцы дзіцячых дамоў і дзеці, пазбаўленыя любові, клапатлівасці і цяпла ў бацькоўскіх дамах. Няхай змахнуць са смутных твараў яны горкую слязу.

Збавіцель прыйшоў, каб будаваць дом для бяздомных, каб кожны змог знайсці маці і бацьку, каб прытуліць кожнае пакінутае дзіця.

Няхай пачуюць гэтыя словы людзі, якія галадаюць, якім адчай заглядае ў вочы і паралізуе іх цяжар неаплачаных кватэр, даўгі за



газ, святло і цяпло.

Сам убогі і бяздомны, у чужых яслях, прыйшоў, каб правесці бедных праз пустыню ўбогасці і прывесці да краіны шчасця.

Няхай гэтая навіна дойдзе да камер асуджаных, да людзей, залежачых ад алкаголю і наркотыкаў, да ўсіх, каму дрэнна і цяжка.

Няма такога граху, каб Ён не прабачыў, няма такой віны, каб не абласкаў, няма такой памылкі, каб як бацька не прытуліў да сябе блуднага сына. Дастаткова паверыць, працягнуць да Яго



руку, просячую прабачэння і спадзявацца на Яго ўсемагутнасць.

Благаслаўленны той, хто ў Яго верыць. Не будуй свайго жыцця без Яго, яно не атрымаецца. Адкрый, што вера у Хрыста — ёсць сіла свабоды, ёсць права свабоды, ёсць краіна свабоды.

Жадаю ўсім гэтай унутранай свабоды, адчыненай на вечнасць, той свабоды, якая ад Бога паходзіць і якую не зможа забараніць ніякая зямная сіла. Са святам!

*Дар'юш БЛАШЧЫК, ксёндз Косаўскага касцёла.*

БЯРОЗА

### Усё па закону?

Старшыня Бярозаўскага райвыканкама сп. І. Малейцін забараніў раённай радзе БНФ "Адраджэньне" правядзенне 13 снежня пікету салідарнасці з палітзняволенымі А. Шыдлоўскім, У. Плешчанкам і інш., прымеркаванага да 50-годдзя прыняцця ААН Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Прычынай стала тое, што месца, якое прасілі ў заяўцы на пікет (уваход у дзіцячы парк адпачынку ад вул. Чырвонаармейскай) знаходзіцца па адлегласці менш за 50 м ад тэрыторыяў школы №1 і дзіцячай дашкольнай установы — садка № 2. Хоць і не зусім зразумела, як пікет мог замінаць "забяспечыць жыццядзейнасць насельніцтва" ў гэтых установах у выхадны дзень?

### Заезжыя рабаўнікі

У лістападзе г. г. у вёсцы Равяцічы быў абакрадзены сельскі магазін. Невядомыя злачынцы вынеслі з яго тавараў на 29 мільёнаў рублёў. І, напэўна, засталіся б невядомымі, калі б не адзін з мясцовых жыхароў, якому трапіла ў поле зроку падазроная легкавая машына. Ён нават нумары яе запісаў і тым самым вельмі дапамог следству.

Супрацоўнікі Бярозаўскага РАУС заклалі дадзеныя ў кампутар. Аказалася, што легкавушка даўно знаходзіцца ў вышуку. Яе выкарыстальнікі — жыхары г. Ліда Гродзенскай вобласці — каталіся па сельскіх дарогах і рабавалі магазіны ў глухіх вёсках Баранавіцкага, Ляхавіцкага, Бярозаўскага і іншых раёнаў Брэсцкай і Гродзенскай абласцей. Злачынцы дзейнічалі так нахабна, што нават нумароў машыны не мянялі.

На працягу сутак злодзеяў затрымалі — ужо ў Брэсце. Аказалася, што за імі лічацца яшчэ два крадзяжы аўтатранспарту. Узбуджана крымінальная справа.

### Чарговы аўкцыён

праведзены ў райвыканкаме. На таргі былі выстаўлены 13 аб'ектаў гарадской камунальнай маёмасці. Гэта — аб'екты былой воінскай часці, размешчаныя ў Чырвоных казармах, і ПМК-25.

Усе аб'екты, якія прадаваліся па метаду зніжэння стартавай цаны, выкуплены прадпрымальнікамі горада.

### Заведено уголовное дело

Брестская областная прокуратура возбудила уголовное дело по факту хищения имущества торгово-промышленной фирмы "Ивацевичи" по ст. 87 часть 3 УК РБ.

Напомним читателям, что директор фирмы, депутат Верховного Совета РБ В. Кудинов был арестован в феврале 1997 года и осужден к 7 годам лишения свободы. Фирма же фактически была разгромлена и разграблена. Прокуратура Ивацевичского района трижды отказывала в возбуждении уголовного дела по факту хищения ее имущества.

О ходе следствия "Газета для вас" будет информировать читателей. Следите за газетой.

БАРАНАВІЧЫ

### "Ідзіце ў Гай лістоўкі клеіць..."

На сваім апошнім пасяджэнні сябры Баранавіцкай гарадской арганізацыі беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" вырашылі выставіць у горадзе пікет супраць павышэння цэн і падзення жыццёвага ўзроўню народа. Быў вызначаны дзень правядзення акцыі — 13 снежня, час — з 12 да 16 гадзін, а таксама месца — пляцоўка каля фантана на пл. Леніна. Адпаведная заяўка арганізатарамі была пададзена ў гарадскі выканаўчы камітэт.

Гарвыканкам пытанне разгледзеў і правядзенне пікета дазволіў, але не каля плошчы Леніна. Пікецiраваць сацыял-дэмакратаў адправілі ў амаль бязлюднае месца — гарадскі парк культуры імя 30-годдзя ВЛКСМ. (Цікава, чаму не ва ўрочышча Гай?)

Відаць, улады захацелі накіраваць падзеі па сцэнарыі кінастудыі "Чукчафільм":

— Алега Кашавая дома?

— Няма. Пайшла ў тайга лістоўкі клеіць.

Аднак баранавіцкія сацыял-дэмакраты не жадаюць прыпадабняцца да чукчаў — пікеціраваць у зімовым бязлюдным парку сярод варон, і маюць намер 13 снежня у 12.00 выйсці ўсё ж да фантана на пл. Леніна і выказаць свой рашучы пратэст супраць палітыкі ўрада, што вядзе да збяднення людзей.

У назначаны час а 12 гадзіне 13 снежня на плошчы Леніна, сапраўды, сабраліся сябры "Народнай грамады". Але пікет яны не праводзілі — каб не ўплочваць штрафы. Замест гэтага яны пад бел-чырвона-белымі сцягамі ўбіралі пляцоўку ля фантана.

А пікет адбыўся ў 14 гадзін у маладым парку.



## Сердечно поздравляем



*Дорогую, любимую внучку, племянницу и сестру Танечку РУСАК из г. Ивацевичи от всего сердца поздравляем с 17-летием!*
*Желаем счастья много-много,*
*Хотим, чтоб в жизни молодой*
*Твоя широкая дорога*
*Не стала узкою тропой.*
*Еще любви тебе желаем —*
*Огромной, чистой, как слеза.*
*Хотим, чтоб вечно улыбались*
*Твои счастливые глаза.*
*Бабушка Аня, тетя Лариса, дядя Коля, сестра Настя и брат Сережа.*



*Тепло и сердечно поздравляем с днем Ангела КАЗИМИРЧИК Александра Александровича с г. Коссово, желаем крепкого здоровья, счастья, удачи во всем.*
*День рождения — особая дата.*
*Этот праздник ни с чем не сравнить,*
*Кто-то добрый придумал когда-то*
*Именинникам радость дарить.*
*Желаем быть всегда счастливым,*
*А также добрым и простым,*
*Всегда приветливым и милым,*
*Всегда любимым, дорогим.*
*Мама, папа, баба, дед, крестный и Таня, брат Володя.*

*Дорогого Владимира Владимировича ЛАСЬКОВА из г. Коссово поздравляем с днем рождения!*
*Желаем счастья, благополучия, здоровья!*
*Мы хотим, чтобы яркое солнце*
*Над тобою светило всегда.*
*Мы хотим пожелать тебе счастья,*
*Чтоб реальностью стала мечта.*
*Чтоб любые ненастья и горе*
*Обошли твою жизнь стороной.*
*Ты для нас — самый лучший на свете,*
*Самый нужный, родной человек.*
*Жена, дети, внуки, друзья.*

*От всей души поздравляю ПУЗЫРЕВИЧ Стефанию Ильиничну из г. Барановичи с днем рождения.*
*Желаю удачи, желаю успеха!*
*А если морщинок — то только от смеха.*
*И пусть не встречается больше несчастье,*
*А если уж слезы — то только от счастья!*
*ПЕТЯ.*

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Шарэцкі просіць дапамогі

*Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі звярнуўся да народаў і ўрадаў свету з лістом "Аб аказанні тэрміновай гуманітарнай дапамогі беларускаму народу".*

"На лёс беларусаў выпалі цяжкія выпрабаванні, — гаворыцца ў звароце. — Здароўе нацыі сур'ёзна падарвала Чарнобыльская катастрофа, а таксама эканамічныя і палітычныя катаклізмы, выкліканыя ўзурпацыяй дзяржаўнай улады дыктатарскім рэжымам А. Лукашэнкі. Даходы людзей не забяспечваюць нармальнага харчавання; на лекі і іншыя патрэбы зарплаты і пенсіі не хапае".

Старшыня Вярхоўнага Савета просіць неадкладна дапамагчы Беларусі харчаваннем і медыкаментамі, пры гэтым ён запэўнівае, што гуманітарныя грузы будуць размяркоўвацца пад эгідай адпаведных міжнародных арганізацыяў.

## Подпісы за вызваленне дэпутатаў

*У абарону дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі А. Клімава і У. Кудзінава сабрана 160 подпісаў еўрапейскіх парламентарыяў.*

Працягваецца міжнародная кампанія ў абарону дэпутатаў Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава, першы з якіх, як вядома, знаходзіцца пад арыштам, другі — прыгавораны да працяглага тэрміну турэмнага зняволення.

Як паведамілі ў камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Беларусі, у абарону Клімава і Кудзінава сабрана 160 подпісаў дэпутатаў нацыянальных парламентаў, а таксама Еўрапейскага парламента. Літаральна днямі да гэтай міжнароднай акцыі салідарнасці далучыліся 27 дэпутатаў з фракцыі "Рух" Вярхоўнай Рады Украіны. Да канца гэтага года арганізатары акцыі плануюць сабраць 500 дэпутацкіх подпісаў у абарону калег-парламентарыяў.

## Вёска без грошай

*Многія калгасы і саўгасы Брэсцкай вобласці не расплаціліся са сваімі работнікамі яшчэ за жнівень-верасень.*

Агульная сума запазычанасці па зарплаце набліжаецца да 200 мільярдаў рублёў. Найгорш ідуць справы з выплатамі ў Баранавіцкім, Кобрынскім, Івацэвіцкім, Лунінецкім, Пружанскім і Пінскім раёнах.

Акрамя таго, сярэдняя зарплата ў жыхароў сяла склала менш за 2 мільёны рублёў. Гэта значна ніжэй не толькі за сярэднюю зарплату ў вобласці (5 мільёнаў 159 тысяч рублёў), але і за пражытачны мінімум.

*(БелаПАН).*

## И все-таки праздник!

*25 декабря — знаменательный день для текстильщиков г. Барановичи. Они справляют юбилей. И пусть эта дата не очень круглая, но на фоне нынешнего кризиса она вспоминается как нечто фантастическое. А ведь было...*

35 лет тому назад из среднеазиатского хлопка получены первые килограммы барановичской товарной пряжи. Минск, Витебск, Гомель, Орша, Бобруйск, Пинск, Кобрин, Киев, Харьков, Днепропетровск — адреса первых потребителей пряжи. Разумеется, событие это было не рядовое и по такому поводу был организован торжественный митинг, на котором руководители республики, города, отрасли поздравили участников стройки с трудовой победой — пуском первых мощностей хлопчатобумажного комбината.

...Шли годы. В восьмидесятых годах в цехах завершалась замена морально устаревшего оборудования на более совершенное. С развалом СССР на долю текстильщиков выпали тяжкие испытания, связанные с поставкой хлопка. Неполная рабочая неделя, вынужденные остановки производства. Словом, объединение буквально засасывала своего рода "трясина". Но текстильщики верят в то, что предприятие найдет еще свой светлый путь. И год 35-летнего юбилея вселяет уверенность в это. В уходящем году текстильщики потрудились плодотворно. Ими произведено более 10 тысяч тонн пряжи, почти вдвое больше прошлого года выпущено тканей. Суровых — 34103000 погонных метров, готовых — 32524000 погонных метров. Темп роста товарной продукции вырос в 2,7 раза, прибыль за 10 месяцев составила 50,3 млрд. руб. Многотысячный коллектив воспрянул духом.

*М. КУЛИКОВА.*

## Людзі прападаюць

*За восем месяцаў 1996 года на Брэстчыне прапала 387 чалавек, а за гэты тэрмін 1998 года ў вышуку знаходзяцца 415 асоб.*

Прапаўшыя дзеляцца на дзве групы. Адны дзесьці загулялі ці з'ехалі, не папярэдзіўшы сваякоў, а другія сталі ахвярамі — загінулі. Уцякаюць ад бацькоў і дзеці, але іх міліцыя знаходзіць даволі хутка. Больш складаная сітуацыя з тымі, каго забілі. Як правіла, гэтыя людзі мелі пры сабе вялікія сумы грошай альбо зніклі разам з аўтамабілямі. Іх знайсці даволі складана, але нават калі ад чалавека не засталося і следу, удаецца выявіць забойцаў.

У Баранавічах знік 27-гадовы Залазаеў: яго забілі і спалілі ў печы качагаркі. Праз 2,5 года хлопец, які забіў Залазаева, ужо служыў у арміі і прагаварыўся. А мог і прамаўчаць.

Са слоў начальніка аддзела вышуку УУС Брэсцкага аблвыканкама М. Церашчука, каля 80 чалавек прапалі ў вобласці ўжо даўно, і звестак ніякіх пра іх няма.

Праўда, у параўнанні з іншымі абласцямі Брэстчына па паспяховаму вышуку прапаўшых з'яўляецца лідэрам.

*"Звязда".*

# ПАГРОМ У БЫЦЕНІ

**У Івацэвіцкім раёне такога не помняць нават старажылы: за лічаныя хвіліны адбыўся сапраўдны пагром. Гэта можна параўнаць хіба толькі з армянскім землятрусам. Падзеі развіваліся нібы ў амерыканскім баявіку — хутка, імклівая, з асаблівай жорсткасцю, нянавісцю і нават садызмам. Што ж здарылася?**

ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ







Вёска Быцень даволі вялікі населены пункт. Пасля вайны быў нават Быценскі раён з цэнтрам у самой Быцені. Па вуліцы Гагарына, у самым яе канцы, жыве пенсіянерка, інвалід Таццяна Міхайлаўна Калпачык. Жыве сама ўжо, так лёс ёй наканаваў. Цяжка адной. Мужчынскую работу запрашае дапамагчы знаёмых мужчын. У іх гэта лепш атрымоўваецца. Неяк вясной трэба было дровы пасекчы, папрасіла знаёмага мужыка з вёскі Заполле, што ў двух кіламетрах ад Быцені. Прыйшоў ён з сынам, заплаціла столькі, колькі сказалі дрывасекі. На гэтым і развіталіся.

А летам у хаце Калпачык пабілі амаль усё шкло ў вокнах. Не спаймаў — не злодзей. Але казалі запалянцы, што гэта зрабілі з іх вёскі. А хто — і сёння невядома. Толькі здагадвацца можна.

Але наступныя падзеі ўразілі нават саміх абыякавых абывацеляў і прымусілі іх устрапянуцца, агледзецца навокал і прыняць на ўсякі выпадак меры перасцярогі ад сваіх, дамарошчаных маньякаў, якія ў пошуках прыгод здольны на ўсё, нават на самае гнуснае і агіднае.

Той нядзельны снежаньскі дзень нічым асаблівым не быў адметным. Браўся невялікі мароз, свяціла сонца. Нічога не прадказвала ніякай бяды. Па снежнай дарозе ў Быцень з Заполля ішлі двое: бацька і сын. Цягнулі за сабой санкі. Спыніліся ля першага дома па вуліцы Гагарына. Дзверы зачынены, значыць, у хаце нікога. Рашэнне прыйшло адразу: можна чым-небудзь пажывіцца. І пажывіліся. Насыпалі мех бульбы, забралі больш як дзесяць слоікаў варэння, пагрузілі на санкі і пацягнулі іх у Заполле. Праз нейкую сотню метраў сыну (назавём яго Пятром) нешта стукнула ў галаву, і ён сказаў бацьку:

— Цягні сам, а я вярнуся. Потым даганю цябе...

І Пятро вярнуўся ў хату Калпачык. Адшукаў сякеру, узяў яе ў абедзве рукі, некалькі секунд стаяў сярод пакоя ў нейкай нерашучасці. Што ён думаў у гэты момант? Кім сябе ўяўляў у чужой хаце? Можа смелым Дон Кіхотам, які змагаецца за справядлівасць пакрыўджаных? А можа разбойнікам з вялікай дарогі, якому не існуе перашкод на ягоным шляху?

Кожны чалавек перш чым што-небудзь зрабіць, добрае ці дрэннае, думае, асэнсоўвае і абавязкова робіць вывад — дзеля чаго ён затраціць свае веды, сілы, волю...

Сёння, відаць, не кожны асмеліцца сказаць, што ж урэшце-рэшт думаў дваццацігадовы Пятро, стоячы сярод пакоя з сякерай у руках. Але ж далейшыя дзеянні хлопца адразу не ўкладваюцца ў нармальную чалавечую логіку.

Першае, на што нацэліўся запалянец, гэта тэлевізары. Два ўзмахі сякеры, — і ашкалёпкі ад тэлевізараў паляцелі па падлозе. Звон шкла, відаць, яшчэ больш распаліў хлопца, і ён усё махаў і махаў сякерай. Крэслы, табурэткі, шафа, пральная машына, халадзільнік, электраразеткі... Усё трушчылася з неверагоднай сілай і хуткасцю. Што яшчэ? На момант спыніўся, а тут з сянец сабака ўбег на гэты незнаёмы шум. І ён атрымаў абухам па галаве. Схапіў ужо нежывога за ногі і закінуў на печ. Затым прыняўся за печку-галанку. Не спадабалася запалянцу, што яна такая белая і прыгожая і стаіць сабе, як пані. Некалькі ўдараў — і пасыпаліся кафель і цэгла. І тая печка, як паранены чалавек, засталася стаяць з адкрытымі ранамі.

У хаце было ўсё пабіта і патрушчана, і наш "герой" з сякерай у руках выйшаў на двор. Разагрэўшыся ў хаце, ён накіраваўся ў гараж, каб і там прадоўжыць пагром. Адкрыўшы вароты, запалянец, нібы звер, што вырваўся з клеткі, накінуўся на "Запарожца". Пабіў шкло легкавіка, пасёк дах і, здаволіўшыся, сагнаўшы сваю неўтаймаваную воўчую злосць, падаўся ў Заполле пад бацькаў дах. Што ён думаў пасля такога пагрому, цяжка сказаць. Але ж, здаецца, ні аб чым. Калі ў чалавека, як кажуць, дах паехаў, ён не здольны ўжо думаць. Можа хто мяркуе інача́й, а мы толькі так.

А тым часам Таццяна Міхайлаўна вярнулася дамоў. Яшчэ з падворка адчула нешта нядобрае — усё паадчыняна, сляды нейкія. Не ўвайшла, а ўбегла ў хату і сваім вачам не паверыла: нічога "жывога" ў хаце. Схапілася за галаву, загаласіла, заенчыла, стала на калені. У куце цудам уцалела іконка, памалілася, папрасіла Бога аб дапамозе. Папрасіла пакараць нягодніка.

Як дажыць жанчыне свой век у пустой хаце? Нажывала ўсё жыццё — і раптам нічога не засталося.

— Нікому ніколі я зла не зрабіла. Нікога не зганіла і не пакрыўдзіла і трэба на старасці атрымаць такі ўдар. Хто ж мне дапаможа? — не расказвае, плача Таццяна Міхайлаўна.

Можна паспачуваць старому чалавеку, інваліду. Мо і знойдуцца добрыя людзі, якія дапамогуць ёй. Сама жанчына не ў сілах зрабіць у хаце хоць бы нейкі рамонт, каб перазімаваць, перачакаць халады.

А таго нягодніка з Заполля міліцыя знайшла і забрала. Зараз ён сядзіць за кратамі і чакае суда. Ці думае ён зараз, што нарабіў?

*А. ГЛУШЭНЯ,*
*начальнік аддзялення крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*
*С. КАЖАДУБ.*

*НА ЗДЫМКАХ: так выглядае пакой Т. М. Калпачык пасля пагрому.*

*Фота А. КРАМЯНКІ.*

ХУТКА НОВЫ ГОД

## Ёлка павінна прынесці толькі радасць

Для значнай большасці насельніцтва навагоднія і калядныя святы застаюцца самымі лепшымі і прыемнымі. Але здараецца, што святочны настрой можа быць азмрочаны такой недарэчнай з'явай, як пажар.



Найчасцей прычынай яго ўзнікнення становіцца ёлка, а дакладней ёлачная электрагірлянда, у якой можа адбыцца кароткае замыканне, асабліва, калі гірлянда не новая і тым болей — самаробная. Таму, перш чым пераносіць электрагірлянду на ёлку, трэба пераканацца ў яе спраўнасці. Не дазваляйце малым дзецям самастойна ўключаць і выключаць электрагірлянду, а таксама не пакідайце іх адных каля ёлкі з уключанай ілюмінацыяй.

Памятайце, што смалістая ігліца ёлкі можа ўспыхнуць ад маленькай іскрынкі, таму пазбягайце каля яе курэння, не паліце запалак ці запальніц.

Так ужо вядзецца, што святы не абыходзяцца без ужывання спіртнога, а таму заставайцеся пільнымі і ўважлівымі пры абыходжанні з агнём, кантралюйце свае дзеянні.

Прасцей кажучы, нават у напружаныя навагоднія дні строга выконвайце элементарныя патрабаванні правілаў пажарнай бяспекі. Гэта паспрыяе захаванню вашага святочнага настрою, дабрабыту.

*В. МОЛАШ.*

# ПОЖИВЁМ — УВИДИМ с 26 по 27 декабря

## СУББОТА, 26

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 "Встречи с Библией". Сериал.
8.25 Континент.
8.40 Потребительская корзина.
9.00, 15.00 Новости.
9.15 "Без ошейника". Худ фильм.
10.40 Здоровье.
11.05 Столица.
12.00 "Все нормально, мама!"
12.30 Око.
12.50 "Есения". Худ. фильм. 2-я серия.
13.55 Познай себя.
14.20 Телеспорт.
15.10 "Все мы родом из детства".
16.10 "Моя жизнь".
16.40 Вершина мира.
17.05 Ток-шоу "Это моя работа".
17.35 "Шельменко-денщик". Кинокомедия.
19.05 "Цветы и овации".
19.40 Из достоверных источников.
20.05 Ток-шоу "Карамболь".
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 "Раб мечты". Историческая драма.
23.10 Белорусский хит-парад.
23.25 Видимо-невидимо.

### ОРТ

7.00 "Разорванный круг". Детектив.
8.30 Мультфильм.
8.45 Слово пастыря.
9.00, 14.00, 17.00 Новости.
9.15 Домашняя библиотека.
9.30 "Чердачок братьев Пилотов".
10.00 "Утренняя почта".
10.35 "Каламбур".
11.10 Смак.
11.30 Возвращение Третьяковки.
12.15 "Время желаний". Худ. фильм.
14.15 "Цивилизация".
14.45 "Служба спасения".
15.15 В мире животных.
15.55 Мультфильм.
16.15 Как это было.
17.20 "Женские истории".
17.50 "Ералаш".
18.15 Комедия "Беглецы".
20.00 Время.
20.40 Сериал "Секретные материалы".
21.35 Что? Где? Когда? По окончании — Новости.
23.25 "Французская женщина". Худ. фильм.

### Канал "Россия"

7.00 Фильм для детей "Приключения в стране игрушек".
8.35 Мультфильмы.
9.00 Доброе утро, страна.
9.50 Телеигра "Сто к одному".
10.30 Любовь с первого взгляда.
11.00 Подиум д'АРТ.
11.30 Домашние хлопоты с Натальей Варлей.
12.00 Сериал "Неделя в Санта-Барбаре".
13.00, 19.00 Вести.
13.35 Лауреаты открытого форума телевидения России "Лазурная звезда": год 1998-й. "Новости 4-го канала".
14.05 50x50: Буду звездой!
15.10 Сериал "Закон и порядок".
16.00 Сиреневый туман.
17.00 Моя семья.
18.00 Национальный музыкальный фестиваль "Площадь звезд-98".
19.30 Комедия "Ужин у Фреда".
21.15 Любовная драма "Захочу — полюблю".
22.55 Звуковая дорожка.

### НТВ

7.00 Мультсериал.
7.30 "Ларец Марии Медичи". Детектив.
9.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.15 Криминал.
9.35 Телеигра "Пойми меня".
10.05 Сериал "Легенда о затерянном городе".
10.35 "Среда".
11.15 Профессия — репортер.
11.30 "Служебный роман". Худ. фильм.
14.10 Мультфильм.
14.30 "Русский век".
15.15 Сериал "Она написала убийство".
16.10 Суд идет.
17.00 Дог-шоу. Я и моя собака.
17.30 "Герой дня без галстука".
18.35 Комедия "Ограбление".
20.30 "Итого" с Виктором Шендеровичем.
21.40 "Кавказская пленница". Комедия.
23.05 "Про это".
23.45 Сериал "Девушки из "Лидо".

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 27

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 "Встречи с Библией". Сериал.
8.25 Сделано в Беларуси.
8.40 Потребительская корзина.
8.55 Док. фильм.
9.00, 15.00 Новости.
9.10 "Все дело в шляпе". Новогодний выпуск.
9.40 Туробъектив.
10.05 "Все нормально, мама!"
10.40 Марсово поле.
11.05 Белорусский дом.
11.35 "Беларусь моя родная". Творческий вечер поэтов Риммы Казаковой и Алеся Писарчика.
12.25 "Нам не жить друг без друга". Киноконцерт.
12.55 Сельчане.
13.20 "Золотые ключи".
13.55 Чемпионат Беларуси по мини-футболу. "РАНН-контракшен — БГПА" (Минск) — МАМИД (Минск). 2-й тайм.
14.40 Олимп.
15.10 Бон тон.
15.55 "Эхо жаркого лета". По страницам фестиваля "Славянский базар".
16.25 "Сказочный мир театра".
17.10 Зорная ростань.
17.45 "В ожидании". Худ. фильм.
18.25 Теленавигатор.
18.45 "Земляки".
19.40 Колыбельная.
20.00 Резонанс.
20.50 "Телебарометр".
21.05 Стадион.
21.30 "Все говорят, что я люблю тебя". Комедия.
23.15 Премьера песни.
23.30 Профессиональный бокс. Чемпионат Беларуси.
0.10 Бархатный сезон.

### ОРТ

7.00 Комедия "Женатый холостяк".
8.30 "Утиные истории".
9.00, 14.00, 23.00 Новости.
9.15 "Непутевые заметки" Дм. Крылова.
9.35 Пока все дома.
10.10 Утренняя звезда.
10.50 Армейский магазин.
11.25 Играй, гармонь любимая!
11.55 Крестьянские ведомости.
12.30 "Все путешествия команды Кусто". Сериал.
13.25 Смехопанорама.
14.15 Клуб путешественников.
15.05 Сериал "Симфонические тайны".
15.35 "Дисней клуб".
16. 30 "Колесо истории".
17.15 "Ералаш".
17.30 "Вокзал для двоих". Худ. фильм.
20.00 Время.
20.35 "Кто подставил кролика Роджера". Комедия.
22.30 Футбольное обозрение.
23.20 "Багз-3". Сериал.

### Канал "Россия"

7.00 "Волшебный микрофон".
7.30 Служу Отечеству!
7.55 "Утренний экспресс".
8.30 Почта РТР.
9.00 Доброе утро, страна.
9.35 Сам себе режиссер.
10.00 "Аншлаг" представляет.
10.30 "Городок".
11.00 Русское лото.
11.40 Мир книг с Леонидом Куравлевым.
12.00 Сериал "Неделя в Санта-Барбаре".
13.00 Вести.
13.30 Федерация.
14.10 Парламентский час.
15.10 Сериал "Закон и порядок".
16.00 Диалоги о животных.
17.00 "Мужская компания". Боевик.
18.10 Совершенно секретно.
19.00 Зеркало.
19.55 "Хиппиниада, или Материк любви". Комедия.
21.25 "Абзац".
22.20 Дежурная часть.
22.45 "Фокусник". Худ. фильм.

### НТВ

7.00 Мультсериал.
7.30 "Кавказская пленница". Комедия.
9.00, 11.00, 15.00 Сегодня.
9.15 "Весь Жванецкий".
9.45 Устами младенца.
10.10 Жизнь замечательных зверей.
10.40 "Впрок".
11.15 Большие деньги.
11.40 "По семейным обстоятельствам". Худ. фильм.
14.00 Своя игра.
14.30 "Русский век".
15.20 "Ключи от форта Байяр". Телеигра.
17.00 Итоги. Предисловие.
17.25 Худ. фильм "Джеймс Бонд — агент 007". Фильм 17-й.
19.45 Куклы.
20.00 Итоги.
21.00 "Ее звали Никита". Сериал.
22.00 Итоги. Ночной разговор.
22.30 Брюс Уиллис в детективе "Цвет ночи".

# ВІНШАВАННІ, АБ'ЯВЫ, РЭКЛАМА

## СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ

*От всей души поздравляю с днем рождения свою любимую, дорогую внучку ВОРОНОВУ Леночку. Желаю крепкого здоровья, добра, радости, успехов в учебе, благополучия.*

*Желаю счастья,*
*светлых дней,*
*Здоровья, что всего*
*ценней,*
*Дорогу в жизни подлинней,*
*Всего хорошего на ней.*
*Пусть стороной*
*обходит зло,*
*Пусть каждый день*
*становится желанней.*
*А в жизни,*
*чтоб всегда везло*
*И счастье было*
*гостем постоянным.*

*Твоя бабушка Лена.*

*Уважаемая Нина Александровна СИВЦОВА! Горячо и сердечно поздравляем вас с юбилеем! Желаем крепкого здоровья на долгие годы, семейного счастья и благополучия. Пусть в ваших добрых глазах всегда светится радость.*

*Пусть солнце сияет*
*за вашим окном,*
*Пусть радость и мир*
*не покинут ваш дом,*
*Пусть мимо проходят*
*печаль и невзгоды,*
*Здоровья и счастья*
*на долгие годы.*
*Чтоб жить — не тужить*
*до ста лет довелось,*
*Пусть сбудется всё,*
*что ещё не сбылось.*

*Работники терапевтического отделения Ивацевичского РТМО.*

*От всей души поздравляем с 16-летием дорогую доченьку ПЕСЕЦКУЮ Ольгу Владимировну из г. Ивацевичи.*

*Желаем счастья,*
*светлых дней,*
*Здоровья, что всего*
*ценней.*
*Дорогу в жизни подлинней,*
*Всего хорошего на ней.*
*Пусть стороной*
*обходит зло,*
*Пусть каждый день*
*становится желанней,*
*А в жизни, чтоб всегда*
*везло,*
*А счастье было*
*гостем постоянным.*

*Папа, мама.*

*Дорогого, любимого мужа РЕДЬКО Алексея из д. Выгонощи поздравляю с днем рождения. Желаю счастья, здоровья, семейного благополучия, долгих лет жизни!*

*Просто тебе желаю*
*Жизнь прожить без паденья.*
*И от души поздравляю*
*С днем твоего рожденья!*

*Жена Алла.*

### ПРОДАЕТСЯ

☞ **Мёд.** Обращаться ул. Гагарина, 25. Телефон в г. Ивацевичи 2-44-26.

☞ Капитальный **гараж** в районе ул. Механизаторов. Звонить по телефону в г. Ивацевичи 2-26-51.

☞ **Автомобиль** "Запорожец" в хорошем состоянии. Недорого. Обращаться по адресу: ***Ивацевичский район, д. Любищицы, пер. Школьный, д. 7, кв. 2.***

### МЯНЯЮ

☞ 1-комнатную квартиру в г. Пружаны на 1-комнатную квартиру в г. Барановичи. Телефон в г. Барановичи 2-01-18.

### ИЩУ

☞ Девушка 20-ти лет ищет работу **секретаря-референта**. Телефон в г. Барановичи 7-50-81.

### КУПЛЮ

☞ Полиэтиленовую **плёнку**. Звонить по телефону в г. Ивацевичи 2-26-51.

● *ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...*

## ГАРАСКОП 21.12—27.12

**АВЕН (21.3—20.4)**
У складаных сітуацыях не вылучайце ў якасці аргумента вашы грамадскія дасягненні і аўтарытэт. Па ірoніі лёсу аўтарытэт можа аказацца падмочаным, а заслугі — фантомамі. Апрача таго, не спрабуйце ў гэты час планаваць што-небудзь наперад і акуратна будуйце зносіны з сябрамі. Вашы залішне крытычныя погляды могуць вельмі сур'ёзна пакрыўдзіць нават самых лепшых сяброў.

**ЦЯЛЕЦ (21.4—20.5)**
Не спяшайцеся ў першай палове тыдня здзяйсняць далёкія паездкі. Увогуле магчыма, што Фартуна будзе ахоўваць вас ад іх і ад непатрэбных вам сустрэч дастаткова непрывычнымі спосабамі. Так што не спяшайцеся з укорам адносіцца да абставін: недарэчныя выпадковасці, страчаны білет альбо спазненне на месца сустрэчы — не абавязкова прывядуць да страт ці катастроф. Затое ў другое палове тыдня не сядзіце склаўшы рукі, гэта спрыяльны час для вас.

**БЛІЗНЯТЫ (21.5—21.6)**
Спробы змяніць што-небудзь для дасягнення большай гармоніі ў пачатку тыдня могуць не ўвянчацца поспехам з-за сваёй шырокамаштабнасці і грубасці выканання. Адкладзіце ажыццяўленне такіх спроб да другой паловы тыдня, у гэты час вы будзеце здольныя без страт для сябе і людзей, што вас акружаюць, літаральна "звярнуць горы".

**РАК (22.6—22.7)**
"Вера без спраў — ёсць мёртвая вера" — такі ваш дэвіз на гэты тыдзень. Але ж пастарайцеся не вырашаць усялякія спрэчныя пытанні ў яго пачатку. У лепшым выпадку, пасля доўгіх спрэчак, вынікам з'явяцца гучныя словы, што нічога не значаць. Пацярпіце да другой паловы тыдня, калі вы і вашы апаненты без непатрэбнай слоўнай дуэлі здолееце адразу перайсці да добра скаардынаваных дзеянняў, якія нясуць узаемную выгаду.

**ЛЕЎ (23.7—23.8)**
У пачатку тыдня ваша жаданне прадэманстраваць уласнае майстэрства на рабоце здольна натрапіць на сур'ёзныя перашкоды. Галоўнай з іх можа выявіцца ваша ганарыстасць. Памятайце аб тым, што сапраўдны майстар вызначаецца сваімі творамі ды здзяйсненнямі. Другая палова тыдня прадаставіць вам усе магчымасці дасягнуць прафесійных поспехаў менавіта ў такім напрамку.

**ДЗЕВА (24.8—23.9)**
Жаданне з галавой акунуцца ў пачатку тыдня ў прывабны раскошнымі перспектывамі вір рызыкі, азарту і галавакружных раманаў можа ў канчатковым выніку пакінуць вас у разбітай начоўкі ды зрабіць уладальнікам гучнай скандальнай славы. Затое ў другой палове тыдня вы здолееце стаць пераможцам у такога кшталту справах без лішняга шуму. Выбярыце тое, што вам бліжэй і даражэй.

**ШАЛІ (24.9—23.10)**
Спробы ў пачатку тыдня пабудаваць сямейныя і хатнія справы "як у людзей", рызыкуюць праваліцца, справакаваўшы непатрэбныя высвятленні адносін. Пастарайцеся ў гэты час сур'зна падумаць аб спалучэнні паверхневага, знешняга, наноснага і сапраўднага цяпла хатняга ачага. Самі ж дзеянні адкладзіце да другой паловы тыдня, калі яны выявяцца дарэчнымі ў спалучэнні з праніклівасцю і пераканаўчасцю вашай мовы.

**СКАРПІЁН (24.10—22.11)**
Няўдачы ў зносінах і кантактах у пачатку тыдня могуць аказацца вынікам вашага празмернага прыцягнення да вычваных, але фармальных і пустых па сутнасці прамоў. Пастарайцеся ў гэты ж час адмовіцца ад ролі цырымоній майстра пры размовах з калегамі па працы. Перанясіце важныя візіты і кантракты на другую палову тыдня, калі вашы словы акажуць на субяседніка амаль магічнае ўздзеянне.

**СТРАЛЕЦ (23.11—21.12)**
Для вас у пачатку тыдня непажаданыя буйныя пакупкі і сур'ёзныя аперацыі з грашамі. Спробы выглядаць шчодрым мецэнтам, даючы іх у доўг, могуць у лепшым выпадку прынесці страты гэтых грошай на працяглы тэрмін. Адкладзіце азначаныя акцыі да другой паловы тыдня, калі вы здолееце тонка адчуць і абысці ўсе непрыемнасці, а таксама не толькі захаваць свае набыткі, але і павялічыць іх.

**КАЗЯРОГ (22.12—20.1)**
Вам трэба быць гранічна ўважлівымі да свайго знешняга выгляду і паводзін у грамадстве ў першай палове тыдня. Залішняя ганарлівасць ды агрэсіўнасць у адносінах да акружэння і абуральны знешіні выгляд могуць падарваць ваш аўтарытэт і прынесці не надта добрую славу, не лепшым чынам адбіцца на вашым самаадчуванні і стане душы. Дачакайцеся другой паловы тыдня, калі ваша актыўнасць будзе больш дарэчнай і прымальнай для іншых людзей.

**ВАДАЛЕЙ (21.1—19.2)**
Спробы ў пачатку тыдня матываваць уласныя патаемныя жаданні і закулісныя дзеянні агульнапрынятымі словамі і прыгожымі, але паверхневымі довадамі наўрад ці пакінуць у спакоі ваша сумленне. Пачакайце да другой паловы тыдня, калі вы здолееце паспяхова рэалізаваць задуманае. Прычым з'явяцца нават шанцы зрабіць гэта адкрыта, з карысцю для сябе і людзей, што вас акружаюць.

**РЫБЫ (20.2—20.3)**
Пастарайцеся ў першай палове тыдня нічога не планаваць, асабліва калі гэтыя планы закранаюць найбольш значныя для вас сферы жыцця. Апрача гэтага, будзьце акуратныя ў зносінах з сябрамі — вялікая імавернасць разладу і непаразуменняў з многімі з іх з-за вашай нястрыманасці і раптоўнай запальчывасці. У гэты ж час не прадпрымайце ніякіх дзеянняў у грашовай сферы, дачакайцеся другой паловы тыдня, калі абставіны будуць больш спрыяльнымі для грашовых спраў.

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць адзін раз на тыдзень: у суботу.
Фармат 420x300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 18 снежня ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас".
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Леніна, 62, 225250, г. Івацэвічы.
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.



Тыраж 3.000.
Заказ 3435.